Дзедзіч
Зберагчы і Паўлічыць
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№6 (84) • ВЕРАСЕНЬ 2013

**Увага!**

**22 верасня ў Берасці адбудзецца велапрабег, прысвечаны Сусветнаму дню без аўтамабіля! Чакаем велааматараў!**

# ДЗЕДЗІЧ ЗАПРАШАЕ
## НА ДЗЕНЬ АДЧЫНЕНЫХ ДЗВЯРЭЙ!

УВАГА!

ATTENTION!

ACHTUNG!

**Вы чулі нешта пра Дзедзіч, але не ведаеце, што гэта?**
**Не ўяўляеце, чым займаюцца сябры Дзедзіча?**

**Не ведаеце, што карыснага можна знайсці ў Дзедзічы менавіта для сябе?**

**Тады наступная інфармацыя для вас!**

Шмат хто з берасцейскай моладзі чуў пра Дзедзіч, і нават трымаў у руках такі самы білютэнь, які зараз трымаеце вы, але пытанняў пра дзейнасць гэтай моладзевай арганізацыі заўсёды вельмі шмат.

І вось, нарэшце дзедзічы вырашылі распавесці пра сябе і запрасіць усіх ахвотных і зацікаўленых у госці на гарбату і расповед у малюнках (фотаздымках) пра ўсё, што было і яшчэ будзе зроблена.

Агенцтва рэгіянальнага развіцця «Дзедзіч» існуе ўжо 14 год, але дзень адчыненных дзвярэй ладзіцца ўпершыню - і гэты дзень дакладна не павінен прайсці міма вас, актыўных, неабыякавых беларусаў новага пакалення!

ПРЫХОДЗЬЦЕ У ЧАЦВЕР, 26 ВЕРАСНЯ, НА ОФІС ДЗЕДЗІЧА, І МЫ АДКАЖАМ НА ЎСЕ ВАШЫ ПЫТАННІ - СЦІПЛЫЯ І НЕ.

***Сустрэча адбудзецца ў чацвер, 26 верасня, у 19-00 на офісе «Дзедзіча» па адрасе: вул. Кірава, д. 60.***

***У межах дня адчыненых дзвярэй адбудзецца:***
- ***фотавыстава (архіў фотаздымкаў за ўсе 14 гадоў працы),***
- ***прэзентацыя дзейнасці па тэматычных блоках (беларуская культура, грамадская дзейнайсць, Еўрапейскі клуб і кампанія «За Вела-Брэст»),***
- ***адказы на пытанні,***
- ***запіс у сябры і валанцёры «Дзедзіча» па накірунках дзейнасці.***
- ***падарункі і прызы за лепшыя пытанні!!!***

Сябры «Дзедзіча» распавядуць пра тое, чым займаецца арганізацыя ў апошнія гады і, канешне, пра планы на будучыню - пра тое, дзе менавіта вы можаце прыняць удзел (ці нават арганізаваць): культурныя імпрэзы, сацыяльныя, грамадскія, экалагічныя акцыі, міжнародныя моладзевыя абмены і нават журналістыка.

Словам, цікавай працы хопіць усім!

# 26 ВЕРАСНЯ!!!



# “НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ”

**На прэс-канферэнцыі 20 мая, абвяшчаючы пра новыя супольныя дзеянні, лідар кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімер Някляеў падкрэсліў: размова не ідзе аб «зліцці» структур у адну арганізацыю альбо кааліцыю. Але пасля доўгіх перамоваў кіраўніцтва структур вызначылася, што ўсё ж важней народу паведаміць не «хто будзе супраць Лукашэнкі», а што чакае краіну ў выпадку пераменаў, і якія пытанні для развіцця краіны неабходна вырашаць у першую чаргу.**

Найперш, трэба адзначыць, што гэта будзе не зусім рэферэндум. Хутчэй, напачатку гэта будзе спрэчка аб шляхах развіцця краіны ў будучыні. У летнія месяцы прадстаўнікі трох структур спрабавалі абмеркаваць з удзелам экспертаў і рэгіянальных актывістаў, якія пытанні з'яўляюцца больш актуальнымі для краіны, і якія з іх можна было б узняць на нацыянальным узроўні.



Потым пачнецца высвятленне думкі народа па гэтых накірунках. Плануецца, што такое «актыўнае народнае абмеркаванне» дапаможа не толькі зразумець арганізатарам, што ж найбольш хвалюе народ, але і прыцягне ўвагу народа да ўдзелу ў палітыцы як да спосабу вырашэння праблемаў.

Наступным этапам стануць выбары ў мясцовыя саветы, якія плануюцца ў нас напрыканцы гэтага — напачатку наступнага года. Да таго часу «Народны рэферэндум» павінен вызначыць асноўныя праблемы, якія хвалююць людзей, і з гэтымі пытаннямі ўсе тры структуры будуць вылучаць сваіх кандыдатаў. Больш за тое: мяркуецца, што будзе створаны своеасаблівы «адзіны штаб «Народнага рэферэндуму», і стаць кандыдатам ад гэтай ініцыятывы зможа любы, хто абавязваецца падтрымліваць ідэю «Народнага рэферэндуму» і хоча альбо паўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, альбо перамагчы ў ёй.

Прайшоўшы такую «абкатку», пытанні «Народнага рэферэндуму» стануць агульнай праграмай кандыдата ў прэзідэнты (альбо аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты) ад дэмакратычных сілаў Беларусі.

Сапраўдны рэферэндум, як прызнаўся адзін з удзельнікаў прэс-канферэнцыі, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Юрась Губарэвіч, правесці ў Беларусі немагчыма. Але ён усё ж спадзяецца, што падчас мясцовых выбараў альбо праз некаторы час пасля іх будзе сабраная дастатковая колькасць подпісаў за правядзенне такога рэферэндуму. «Можа, мы і збяром неабходныя паўмільёна подпісаў за тое, каб рэферэндум адбыўся. Але рэферэндум павінен прайсці, канешне, не з тым складам камісій, якія забяспечваюць уладзе кожны раз «перамогу». Для яго патрэбны і змены ў выбарчае заканадаўства», — кажа Губарэвіч.

З гэтым нельга не пагадзіцца: як у краіне няма выбараў, так і няма рэферэндуму. Але яго, на думку кіраўніка «За свабоду» Аляксандра Мілінкевіча, усё адно правесці давядзецца. «Краіна зараз цяжарная пераменамі. Каля 80% людзей хочуць пераменаў у краіне, але сфармуляваць, якіх пераменаў хочуць, яны не могуць. Адназначна грамадства не хоча рэвалюцый, нейкіх гвалтоўных дзеянняў, яно хоча эвалюцыйнага шляху да лепшага. І абмеркаваць гэты шлях мы з грамадствам павінны», — лічыць ён.

«Нават калі ў 2015 годзе на выбарах пераможа дэмакратычны кандыдат, альбо ўлада ляснецца пад цяжарам эканамічных праблем, альбо пры іншым сыходзе дзейснай улады ў нябыт, усё роўна будзе рэферэндум, - перакананы Мілінкевіч. - Проста таму, што краіна, урэшце, павінна вызначыцца, што за лад яна будуе, з кім ёй па дарозе ў геапалітычным плане, якія рэформы патрэбныя, а якія не патрэбныя ў краіне, і ўвогуле, што мусіць уяўляць з сябе Беларусь будучыні».

Але, калі глядзець на сцэнар «рэферэндумцаў», то ўзнікае яскравае адчуванне дэжа вю. Па-першае, экспертная ацэнка будучых пераменаў і распрацоўка дэталёвай праграмы рэформаў: гэта тое, што неаднаразова рабілася ў межах так званай «Народнай праграмы», над якою супольна працавалі Партыя БНФ і Рух «За свабоду» за некалькі гадоў да мінулых парламенцкіх выбараў. Здаецца, праграма атрымалася неблагая, але выніку ад гэтай працы рукамі мы памацаць пакуль што не можам.

Па-другое, абмеркаванне праблемаў з народам, і, як вынік, прыцягненне яго да ўдзелу ў выбарах і агульнай актывізацыі — палітызацыі грамадства. Падобны сцэнар ледзь не спісаны з ініцыятывы «Гавары праўду!» «Грамадзянская дамова». На мясцовых выбарах 2010 года, дый на парламенцкіх выбарах 2012 года, гэты сцэнар таксама не тое што не спрацаваў: абвешчаных «новых асобаў у беларускай палітыцы з «новай большасці» можна пералічыць па пальцах.

Між тым, арганізатары і не хаваюць таго, што яны проста «скланавалі» дзве адносна паспяховыя стратэгіі і паспрабавалі злучыць іх у адно. Лідар кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў адзначыў, што яму ў кампаніі «Грамадзянская дамова», якая была скіраваная, найперш, на высвятленне і вырашэнне мясцовых праблем, «вельмі не хапала чаго-небудзь агульнанацыянальнага». «Напрыклад, момантаў, шчыльна звязаных з захаваннем мовы, культуры, гісторыі Беларусі і гэтак далей. Без гэтага я нават думаў: а для чаго мы ўсё гэта робім? Каб дапамагчы Лукашэнку пабудаваць сацыяльна скіраваную дзяржаву для народа? Зараз жа тое агульнанацыянальнае, чаго не хапала «Грамадзянскай дамове», ёсць у «Народнай праграме». І мы аб'ядналі гэтыя рэчы ў «Народным рэферэндуме», — кажа Някляеў.

І, канешне ж, не абышлі ўвагай удзельнікі прэс-канферэнцыі праблему адзінага кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах–2015. Па меркаванні арганізатараў «Народнага рэферэндуму», пэўная асоба тут не самае галоўнае. Па словах Уладзіміра Някляева, у выніку «Народнага рэферэндуму» ім стане той, хто «адпавядае магчымасці зрабіць тыя сістэмныя змены ў краіне», і «павінен прадстаўляць не толькі апазіцыю, але і адпавядаць жаданню большасці людзей, і быць высунутым большасцю грамадства».

Над сцэнарам вылучэння «адзінага» палітыкі яшчэ працуюць.

Канешне ж, дзяжурна было зазначана, што арганізатары кампаніі «Народны рэферэндум» адкрытыя для далучэння іншых дэмакратычных структур. Але ж часу для такога далучэння амаль не засталося. Калі «круглыя сталы» і іншыя формы абмеркавання працы пачынаюцца ў рэгіёнах з пачатку лета, то бок з 1 чэрвеня, то для далучэння ў кампанію «рэферэндумцаў» застаецца толькі два тыдні.

novychas.info

# ЧТО ГОД УЧЕБНЫЙ НАМ ГОТОВИТ?

**Учителям повышают зарплату, школьникам возвращают профильное образование, а студентам придется платить за учебу еще больше. Но станет ли от этого образование более качественным?**



**1. УЧИТЕЛЯМ ПОВЫСЯТ ЗАРПЛАТУ, НО УВЕЛИЧАТ НАГРУЗКУ**

В начале августа Совет Министров принял постановление о повышении окладов учителей на 25%. А заодно решили увеличить и нагрузку — с 18 до 20 часов в неделю.

Преподаватель с 26-летним стажем **Наталья Ильинич** говорит, что даже 18 часов — это большая нагрузка для учителя, ведь многие работают на 1,5 и 1,75 ставки. И хотя сама она сейчас не работает в школе (была уволена по политическим мотивам), уверена, что учителя инициативу правительства не поддерживают.

— *Гораздо эффективнее было бы «снять» с учителей бумажную волокиту, которой они вынуждены заниматься сейчас и которая отнимает уйму времени. Хотя все эти отчеты никакого отношения к образовательному процессу не имеют*, — подчеркивает собеседница.

**2. СТУДЕНТАМ ОПЯТЬ ПОДНИМАЮТ ПЛАТУ ЗА ОБУЧЕНИЕ**

С 1 сентября высшее образование станет на 20% дороже. Стоимость будет варьироваться в зависимости от формы обучения и от курса. При этом вузы имеют право в зависимости от своей экономической ситуации, определять процент увеличения самостоятельно. Но частные вузы, в отличие от государственных, не имеют строгой привязки к верхней планке в 20%.

В Белорусском государственном университете будущие филологи должны заплатить за год учебы более 12 млн. рублей, один курс на факультете прикладной математики и информатики — он возглавляет рейтинг самых предпочитаемых факультетов БГУ – стоит более 14 млн. рублей, а на самой дорогой специальности — «международное право» на факультете международных отношений, а также «правоведение» и «экономическое право» на юридическом факультете — стоимость обучения превышает 17 млн рублей.

Таким образом, цена за высшее образование в Беларуси приближается к европейской. Но может ли наше образование по качеству конкурировать с университетами стран ЕС?

**3. ШКОЛЬНИКАМ СНОВА РАЗРЕШАТ ПРОФИЛЬНОЕ ОБУЧЕНИЕ**

Министерство образования посчитало, что школьникам с 10-го класса можно разрешить углубленное изучение отдельных предметов.

Профильное обучение было отменено в 2008 году, когда произошел экстренный переход с двенадцатилетнего на одиннадцатилетнее среднее образование. И хотя в ходе одного их социсследований в 2007 году 95,4% педагогов высказывались за сохранение профильного обучения, их мнение проигнорировали.

Каждая средняя школа до 1 сентября должна была определить направления для изучения на повышенном уровне учебных предметов. В Министерство образования не исключают, что, возможно, будут и школы, в которых все учебные предметы будут изучаться на базовом уровне, а углубленное изучение организуют на факультативных занятиях.

Отбор в профильные классы проводить не будут, по крайней мере в ближайшем учебном году. Зачислены будут все желающие.

Но в Национальном институте образования уже разрабатывают научно-методическое обеспечение проведения итоговой аттестации учащихся. По ее результатам и будет определяться механизм приема в 10 класс. Кстати, экзаменационные задания по профильным предметам будут сложнее тех, которые изучались на базовом уровне.

**4. «ЭЛЕКТРОННАЯ ШКОЛА»: РОДИТЕЛЬСКОЕ СОБРАНИЕ И ОЦЕНКИ ОНЛАЙН**

Одиннадцать учреждений образования Минска с начала учебного года поучаствуют в проекте «Электронная школа», который предполагает внедрение в образовательный процесс различных информационных сервисов: электронные журнал, дневник, расписание занятий.

Начальник центра информационных ресурсов системы регионального образования Минского городского института развития образования Оксана Минич пояснила:

— Электронные журнал и дневник - это не только просмотр и выставление оценок, но и виртуальное общение родителей и учителей, индивидуальная работа с учеником. У преподавателя есть возможность пояснить, почему, например, он сделал ребенку замечание или поставил четыре, а не пять, направить дополнительные задания в виде прикрепленных файлов, ссылки на электронные учебники и другие ресурсы школьнику. Мамы и папы также могут задать свой вопрос педагогу.

Еще одно нововведение — электронная карта, где объединены функции электронного пропуска и безналичной оплаты. С помощью нее учащийся может не только пройти на территорию школы, но и оплатить питание в школьной столовой, а в перспективе — проехать в общественном транспорте.

**5. ФИЗКУЛЬТУРЫ СТАНЕТ БОЛЬШЕ**

С нового учебного года на физкультуру отводится три часа в неделю. Дополнительный урок будет называться «Часом здоровья и спорта». На форуме Мингорисполкома, где этот вопрос выносился на обсуждение, родителей больше всего беспокоит, что дополнительный урок, скорее всего, поставят на субботу. Кроме того, родители отмечают, что ранее гуманитарные и технические дисциплины (к примеру, «Всемирная художественная культура» и «Черчение») были вычеркнуты из учебной программы, чтобы не перегружать школьников, но на физкультуру дополнительное время нашлось.

**Паводле: zautra.by**

## АДНЫМ РАДКОМ

### У МЕЖАХ "ЗРОБІМ ЛЕПШ" У БЕРАСЦІ ПРАЙШОЎ СУБОТНІК




**Жыхары дома ў мікрараёне Брэст-Усходні ў Берасці разам з мясцовымі грамадскімі актывістамі правялі талаку па добраўпарадкаванні дваравой тэрыторыі.**

На мерапрыемства на вул. Скрыпнікава сабралося каля 15 ўдзельнікаў, у асноўным жыхары мікрараёна і валанцёры «Дзедзіча».

Пра зробленую працу распавядае мясцовая жыхарка Ірына:

- Суботнік прайшоў у межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш!". Спецыяльна для гэтага мерапрыемства мы набылі тры пясочніцы, прывезлі пясок, адгарадзілі зялёную зону ад машын, а таксама пафарбавалі лаўкі. Мэта акцыі – паказаць людзям, што можна аб'яднацца для таго, каб вырашыць агульныя праблемы ці адстойваць агульныя інтарэсы. Грамадскія актывісты дапамагаюць людзям арганізавацца ды сабрацца з сіламі.

Упершыню акцыі "Зробім лепш!" праводзіліся ў Беларусі (у тым ліку і ў Берасці «Дзедзічам») 10 год таму.

Талака праходзіла пры падтрымцы АРР "Дзедзіч" у межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш!", якую ініцыявала Асамблея НДА.



**dzedzich.org**

### FOLKHOME.BY

**У Байнеце з'явіўся новы інфармацыйны рэсурс пра фольк-культуру Беларусі і свету.**

Заснавальнікі сайта імкнуцца такім чынам прасоўваць народную культуру ва ўсіх яе праявах. Сайт **folkhome.by** будзе надаваць вялікую ўвагу анонсам фольк-фэстаў розных краін.

*«Фолк-фестываляў па ўсёй планеце праводзіцца вялікае мноства, хацелася б, каб беларусы ведалі пра іх і часцей адпраўляліся атрымаць асалоду з іх атмасферы. Спадзяемся, што падобнае "ажыўленне" паўплывае і на сітуацыю ў Беларусі»*, — адзначаюць у прэс-рэлізе стваральнікі рэсурсу.

На сайце ўжо з'явілася аўтарская калонка лідэра легендарнага беларускага гурта Gods Tower Уладзіслава Наважылава aka Lesley Knife. Ён шырока вядомы як аматар і знаўца фальклору, мае вялікую аўдыёкалекцыю песень малых народаў.

**Паводле: generation.by**

# ЭВОЛЮЦИЯ ВЕЛИКА

**Владимир Козлов о том, что значил велосипед когда-то, и что он значит теперь.**

**Во времена моего детства велосипед был «объектом тщеславия», к началу девяностых превратился в символ «отстойности», а еще через полтора десятилетия стал символизировать «постбуржуазность».**



Первый «взрослый» велосипед – зеленый «Аист» минского завода – появился у меня в третьем классе. Его купили в могилевских «Спорттоварах», и стоил он 65 рублей – больше, чем пол-зарплаты советского инженера. «Раскладушка» с маленькими колесами стоила дороже, но котировалась ниже: из-за маленьких колес на ней нельзя было разогнаться так, как на «взрослике».

Велик был самым крутым, что могло быть тогда у пацана из Рабочего поселка. Великами гордились, хвастались друг перед другом, их украшали всякой ерундой, чтобы выглядели еще круче. Родители многих моих одноклассников были работягами на вредных производствах, зарабатывая гораздо больше моих. Но покупать своим детям велики не стремились: деньги пропивались, а что оставалось - пряталось в матрас.

В результате, у меня был один из самых крутых великов на всем Рабочем: резиновые брызговики на обоих крыльях, на спицы намотана разноцветная проволока и установлено множество катафотов, на «кобуре» – переводные картинки, а на переднем крыле – пластмассовая фигурка солдата-снайпера с винтовкой.

Моему велику завидовали. Несколько раз мне пытались воткнуть в спицы палку (к счастью, не попали), а пацаны постарше требовали катафоты, говоря, что я их «подпи...л» у их друзей. Я отмазывался или убегал.

Велосипед перестал быть «крутым» классу к восьмому-девятому. «Крутым» теперь был мотоцикл. С велосипедов пересаживались на мотоциклы, называя себя «рокерами». С мотоциклом, конечно, было проще снимать пэтэушниц из ближайших деревень и возить их в лесополосу на короткие «рандеву». У меня уже были другие интересы, и деревенские пэтэушницы не слишком привлекали.

Но и к велосипеду интерес я потерял: вышел из того возраста, когда катание на велике по району было главным времяпрепровождением. Практического смысла в нем тоже не было – не в центр же ездить.

Из тех, кто был старше шестнадцати лет, на велике по Рабочему ездили в основном немолодые дядьки и тетки. Дядьки пристегивали левую штанину прищепкой – чтобы не попала в цепь.

МЕСТНЫЕ ГОПНИКИ ПОГЛЯДЫВАЛИ КОСО, НО НЕ «ДОКОЛУПЫВАЛИСЬ»:

ЧЕЛОВЕК С ВЕЛОСИПЕДОМ БЫЛ ИМ НЕИНТЕРЕСЕН, ЕЗДИТЬ НА ВЕЛИКЕ ДАЖЕ В ДЕРЕВНЕ СЧИТАЛОСЬ «ОТСТОЕМ».

С началом девяностых через польскую границу хлынул поток «бэушных» иномарок, и для пацанов моего поколения «тачка» потеснила мотоцикл в иерархии ценностей. Про велосипед никто и не вспоминал. Какой тут велосипед, когда за несколько поездок в Польшу – «коммерческих» или на рэкет – можно было привезти подержанный «фольксваген», а то и что-нибудь получше. Пацаны, которые когда-то завидовали моему велосипеду, ездили на «тачках», а мой велосипед пылился в сарае у бабушки. Позже, поступив учиться в Минск и приезжая в Могилев на каникулы, я иногда извлекал его оттуда и отправлялся в длинные прогулки по окрестным деревням. Местные гопники поглядывали косо, но не «доколупывались»: человек с велосипедом был им неинтересен, ездить на велике даже в деревне считалось «отстоем».

Продолжались девяностые, ставшие в пост-СССР десятилетием «бумера» и «мерса». Какой уж тут велосипед? А в Европе, буржуазностью уже наевшейся, все было по-другому. Примерно в те самые годы я в первый раз попал в Париж и Амстердам, где раскатывали на великах модные и стильные ребята. Им можно было позавидовать, но не пытаться осуществить то же самое дома.

Что отношение к велосипеду стало меняться, я заметил уже в Москве, в начале 2000-х – хоть Москва и была столь же мало приспособлена для велотранспорта, как и большинство постсоветских городов. Кавказские водители маршруток еще объезжали пробки по тротуарам и по встречной полосе, пешеходов на переходах никто не пропускал, а в городе уже появлялись парни и девушки на велосипедах. Велосипеды были другими, современными, мало похожими на мой старый «Аист».

На четвертом году жизни в Москве и я приобрел велосипед. Он служит мне до сих пор. В весенне-осенне-летний сезон я перемещаюсь по району в основном на нем. С каждым годом вижу вокруг все больше велосипедистов. Это становится модной фишкой – по крайне мере для некоторой части людей. Для тех, кто не понтуется друг перед другом моделью машины или смартфона. Или для тех, кто, простояв несколько часов в день в пробке, бросает вечером машину возле дома и едет на велопрогулку в ближайший парк.

В отличие от машин и смартфонов, велосипед так и не стал брэндовым товаром: никто не обращает особого внимания на брэнды, никто не понтуется друг перед другом своим великом. И в этом – «постбуржуазность» велосипеда.

А между тем, по количеству велодорожек уже судят о степени цивилизованности города. Да, надеяться на то, что постсоветские города в скором времени могут стать такими же комфортными для велосипедистов, как европейские, было бы глупо. Наши города планировались в советское время, тогда про велосипедистов не думали, считая, что люди будут перемещаться в основном на общественном транспорте. Но велосипедное меньшинство шаг за шагом будет отвоевывать себе пространство.

**34mag.net**

## ВЕЛОПРОБЕГУ БЫТЬ!



**6 августа кампания «За Вела-Брэст» подала заявку на проведение велопробега 22 сентября во всемирный день без автомобиля. 15 августа из горисполкома пришёл положительный ответ.**

Участие в велопробеге – прекрасная возможность размять кости, подышать свежим воздухом, а также, что самое главное, привлечь внимание к ряду проблем. Например, к свободе велодвижения по нашему городу. Объединив усилия всех любителей велосипедного транспорта, мы сможем быстрее добиться создания удобной велоинфраструктуры в городе, изменим в лучшую сторону отношение пешеходов и автомобилистов к людям, передвигающимся на велосипеде.

Это уже не первый велопробег от кампании “За вело-Брест”. В прошлом году в нём участвовало более 500 велосипедистов. А в этот раз нам нужно побить этот рекорд!

Участвуйте сами и приглашайте своих друзей! Регистрироваться можно уже сейчас. Присылайте свою фамилию и имя на адрес vybor@tut.by с пометкой «велопробег». Внимание! Каждому зарегистрировавшемуся – фирменная продукция кампании «За вело-Брест» бесплатно.

Заинтересованные вело-клубы и информационные ресурсы приглашаются к партнёрству.

Все подробности велопробега будут сообщены позже, после согласования с горисполкомом. Следите за нашими новостями на сайте velo.dzedzich.org и dzedzich.org, а также в vk.com/za_vela_brest.

**dzedzich.org**

## ВЕЛОСИПЕДИСТАМ ВЕРНУЛИ БРЕСТСКУЮ КРЕПОСТЬ

**В Брестской крепости со стороны Северных ворот сняли знак «Движение велосипедов запрещено».**

В июле 2013г. сразу в нескольких местах крепости установили знаки, запрещающие движение велосипедистам.

Формально движение велосипедистов по Брестской крепости было запрещено всегда (есть информационная табличка на стендах), но только летом этого года установили знаки. Брестская крепость по своей сути - памятник погибшим воинам, захоронение, и двигаться на велосипедах в таких местах запрещается.

Такие знаки были замечены у главного входа «Звезды» и у Северных ворот.

Это решение вызвало неоднозначную и в большей степени негативную реакцию со стороны брестчан.

Инициатива с запретом также не нашла поддержки и у губернатора Брестской области. Как итог — в августе было решено разработать маршруты для велосипедистов, а также установить несколько велопарковок и, конечно, убрать знаки, запрещающие движение велосипедистам.

**Паводле: virtual.brest.by**

# ВЕЛОПАТРУЛЬ
## НА УЛИЦАХ БРЕСТА

**15 августа велопатруль вышел, а вернее, выехал на улицы Бреста, чтобы рассказать, для кого существуют велосипедные дорожки.**



Велосипедистам в нашем городе приходится, мягко говоря, трудновато. У автолюбителей в распоряжении широкие дороги, у пешеходов – тротуары. По логике вещей, для двухколёсного транспорта существуют велодорожки, но, оказывается, не всё так просто.

Мало того, что этих дорожек мало, так и они часто бывают заняты прогуливающимися парами, мамами с колясками, мирно наслаждающимися свежим воздухом, да и просто пешеходами, которым почему-то не по душе пришёлся расположенный в метре от велодорожек тротуар.

Активисты кампании "За Вело-Брест", организованной АРР "Дзедзич", решили попробовать исправить ситуацию. Ведь люди ходят по велодорожкам не из злого умысла, а просто по незнанию и невнимательности. Поэтому участники акции ездили по велодорожкам Бреста, вежливо останавливая пешеходов, просили не нарушать правила, и раздавали листовки с полезной информацией. Ведь тот, кто владеет информацией – владеет миром.

Участница велопатруля Татьяна поделилась своими впечатлениями от поездки: *"Всё было круто, много впечатлений, эмоций. Люди реагировали по-разному, но в основном были настроены добродушно, заинтересованно. Некоторые были даже удивлены, узнав, что они шли не по тротуару, а по велодорожке. Отличились разве что какие-то подростки, которые, как только мы от них отъехали, снова вернулись с тротуара на велополосу, как будто нам назло. Но это уже вопрос воспитания и культуры"*.

Акция закончилась 29 августа. Было роздано около тысячи листовок и проехано много километров по велодорожкам Бреста. Хочется надеяться, что пешеходы, встретившие велопатруль (как впрочем, и остальные), больше не будут нарушать ПДД.

**dzedzich.org**

# ПЕРВАЯ НОЧНАЯ ВЕЛОЭКСКУРСИЯ В БРЕСТЕ

**В ночь с 24 на 25 августа в Бресте прошла первая ночная велоэкскурсия, на которую приехало более 300 любителей двухколёсного транспорта.**



Организаторами нового и довольно смелого для Бреста мероприятия стали Брестский горисполком, общественное объединение "Ручеёк" и портал Виртуальный Брест. Кампания "За Вела-Брэст" выступила в качестве партнёра велоэкскурсии.

По самым скромным подсчётам на экскурсию собралось более 300 человек – оживлённая толпа, которой не хватало места на площадке вокруг памятника 1000-летию Бреста.

Хорошая погода, отличное настроение и предвкушение чего-то нового и необычного. Действительно – новизна и удачность этой идеи привлекли неожиданно много участников.

Портал ***"Виртуальный Брест"*** рассказывает о том, как проходила экскурсия:

"Перед началом экскурсантов приветствовали организаторы, представитель ГАИ провёл инструктаж по мерам безопасности, и тут же разыграл среди молодых велосипедистов семь шлемов, которые они могли использовать по назначению, что сделало их передвижение по городу более безопасным. Экскурсовод музея рассказал о памятнике 1000-летию Бреста и о городе.

Первая часть экскурсии проходила по аллее кованых фонарей по ул. Гоголя.

Из-за большого количества участников было непросто услышать экскурсовода, но кто хотел, тот держался общей колонны, и мог узнать много нового.

Вторая часть мероприятия прошла в парке им. 1 Мая, где несомненной изюминкой стал огромный настоящий телескоп, к которому выстроилась астрономическая очередь. За час все смогли посмотреть на Луну вооружённым глазом, а отдельным счастливчикам довелось поучаствовать в настоящей ночной эстафете, призы для победителей в которой предоставил расположенный совсем рядом автокинотеатр, тоже, кстати, ночной. Старт и финиш в этом соревновании давал трубач, а в паузах для публики играла скрипка.

Представитель магазина «Велосипеды» предоставил два сертификата на покупку аксессуаров для самых красиво светящихся велосипедов, которые достались тем, кого выбрали остальные участники (соответственно, парню и девушке).

На следующем этапе экскурсанты посетили музей фонарей и Брестскую крепость, где была включена подсветка.

Благодаря специальному разрешению, мы смогли проехать вокруг крепости, и завершилось путешествие минутой молчания у Вечного огня.

После крепости был последний крупный переезд к музею города на ул. Леваневского. Он распахнул свои двери в 2 часа ночи для тех, кто пожелал продолжить знакомство с историей города. Сотрудники музея провели весьма познавательную экскурсию по истории Бреста".

Однако из-за неожиданно большого количества участников возникли определённые сложности.

Например, выступающих экскурсоводов было совсем не слышно, а подъехать поближе всем не представлялось возможным. Вместе с тем, использовать звукоусилители было нельзя – рядом жилые дома. Поэтому многие, не дождавшись окончания речи, которой и так не было слышно, решили поехать покататься. В результате некоторые участники сбились с маршрута и не могли понять, что и где происходит, и куда ехать.

Возможно, на будущее стоит предусмотреть звукоусиливающую аппаратуру (как у экскурсоводов небольшой динамик и микрофон) – она не мешает людям в жилых домах и позволяет слышать экскурсовода.

Стоит продумать и вариант проведения экскурсии "конвейером", чтобы не было такого наплыва велосипедистов в одном месте (например, огромной очереди у телескопа или толпы вокруг экскурсовода) – разделиться на группы, которые не будут пересекаться в одном месте. Ну и для любителей проехаться с ветерком – побольше дистанции, чтоб можно было хорошенько покататься.

Но, несмотря на все недостатки, было круто! Большое спасибо организаторам за смелость организовать мероприятие, которое показало, насколько популярны велики в нашем городе.

**dzedzich.org**

# ЗАЛЕССКІЯ ПРЫГОДЫ-2013:
## БУДУЕМ ДОМ ЕЎРАПЕЙСКІХ СУСТРЭЧ

**З 23 па 28 ліпеня маладзёны з усёй Берасцейшчыны (і не толькі) сумяшчалі прыемнае з карысным: адпачывалі на прыродзе ды будавалі Дом Еўрапейскіх сустрэч. Гэты дом дзедзічы будуюць ужо чацвёрты год - і хутка ён адчыніць дзверы для адукацыйных і творчых сустрэч.**



**“Дзедзіч” даводзіць да ладу сядзібу ў вёсцы Залессе Каменецкага раёна. Гэты будынак, які ў аварыйным стане быў набыты агульнымі намаганнямі сяброў “Дзедзіча” у 2008-м годзе, яшчэ праз 2 гады мусіць стаць месцам сустрэчаў моладзі не толькі з Беларусі, але і з усёй Еўропы. Аналагічныя установы існуюць ва ўсіх еўрапейскіх краінах: у Польшчы, да прыкладу, у кожным ваяводстве іх па некалькі адзінак. У нашай краіне першы з такіх дамоў будуе “Дзедзіч”, і месціцца ён будзе акурат на Берасцейшчыне.**

Працы было зусім няшмат: мы больш прыбіраліся, чым будавалі – вывозілі будаўнічае смецце, выраўноўвалі пляцоўку перад домам, уцяплялі трэці паверх. Асобнае дзякуй трэба сказаць дзяўчынкам, Тане ды Наташы, якія самааддана гатавалі нам надзвычай смачныя абеды ды вячэры, і Марку, які, зусім забыўшыся на сябе, мыў агульны посуд у халоднай вадзе.

Ахвяраў падчас летніка амаль не было, адно Сяргей параніў нагу, калі вырашыў зрабіць працу хутчэй, а Марк зваліўся з лесвіцы, калі вырашыў скараціць дарогу. Відаць, сапраўды, паспяшыць – людзей насмяшыць.

Да нас прыязджалі “Правы чалавека на пальцах”: трэнеры спрабавалі данесці да нас, што ж гэта такое і на што яно патрэбна.

Мы хадзілі на памежную заставу (ну, як хадзілі – частку дарогі прайшлі, частку праехалі на возе, частку на машыне – хаця было не так ужо і далёка). Лейтэнант правеў экскурсію па тэрыторыі заставы, распавеў, чым займаюцца служачыя, і як яны ловяць парушльнікаў. А нашыя дзяўчынкі ўпэўніліся, што прыгожых хлопцаў трэба шукаць як раз сярод пагранцоў, бо, як сказаў наш экскурсавод (сам падобны на нейкага супергероя з амерыканскага экшна) “да нас адбіраюць самых найлепшых”.

Мы ладзілі фаер-шоў – было шмат агню і феерверкаў, ды такога ж яскравага настрою і эмоцый.

А яшчэ мы планавалі нашу будучыню, будучыню Дзедзіча, прыдумвалі новыя акцыі і імпрэзы, разбіраліся ў тым, што натварылі за мінулыя гады - да нас прыязджаў трэнер і праводзіў семінар па стратэгічным планаванні.

Завітаў у Залессе і Піт Паўлаў з музыкамі – і было так захапляльна слухаць вядомага чалавека, які столькі зрабіў для беларускай культуры, размаўляць з ім – зусім простым і такім добрым. Гучалі чароўныя песні. Асабліва ўсім спадабалася новая песня “Мроя мая” і канешне, усімі любімыя энэрэмаўскія “Тры чарапахі” і “Паветраны шар”.

І канешне кожны дзень усё новыя і новыя падзеі: гульні, спевы пад гітару, размовы пра ўсё на свеце, збіранне ягад ды яблыкаў, праца, жарты і, безумоўна, вогнішча.

Прэзентуем урыўкі з дзённікаў удзельнікаў летніка.

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

23 ліпеня а 9 раніцы мы ўсе сабраліся каля офіса “Дзедзіч”, селі ў чырвоны бус і накіраваліся ў бок Залесся. Там мы дасталі ўсе нашыя рэчы з аўтобуса і пачалі знаёміцца з мясцінамі. Дарэчы, адразу, як мы дасталі рэчы, аўтобус з’ехаў і пакінуў нас тут сам на сам.

І закруцілася праца…

Мы пачалі наводзіць парадак: мылі посуд, крэслы, падаконнікі, выбівалі пыл, падмяталі паўсюль. А потым прыйшоў час абеду. Мы ўсе так прагаладаліся, што гатавалі ежу амаль у 12 рук. Пасля абеду дараблялі тое, што не паспелі зрабіць раніцай. А потым сабраліся на другім паверсе і пачалі знаёміцца бліжэй. Высветлілася, што мы ўсе такія розныя. І гэта цудоўна!

Надыйшоў час вячэры. Мы вырашылі дапамагчы нашым дзяжурным па кухні і гатавалі ежу ўсе разам: хто чысціў бульбу, хто рэзаў цыбулю, а нехта гатаваў мяса! Атрымалася вельмі смачна.

Адразу пасля вячэры пачаліся інтэграцыйныя гульні. Больш за ўсё спадабалася гульня ў 5 пальцаў і асацыяцыі. Мы высветлілі, хто да каго падобны. Было шмат усмешак і жартаў. Неафіцыйны адбой празвінеў амаль ў 3 ночы. Дзякуй, надвор’е было не вельмі дрэннае.

### ДЗЕНЬ ДРУГІ

Штодзённая праца пачынаецца а 10 раніцы, таму мы прачнуліся крыху раней, паснедалі і прыняліся за справы.

Расклад да абеда быў такі: ты таскаеш цэглу вось з той хаты, ты дапамагаеш мне на 3 паверсе, ты гатуеш сняданак, а ты, а ты, а ты…

Пасля працы мы аб’ядналіся за сталом.



Таксама да нас далучыліся будаўнікі, якія дапамагаюць “Дзедзічу” будаваць Дом еўрапейскіх сустрэч.

Па абедзе амаль усе удзельнікі летніка сабраліся на ганку і абмяркоўвалі, што было ўчора. Галоўнай тэмай была гульня ў асацыяцыі, у якой мы высветлілі нашыя падабенствы да розных рэчаў. Прайшоў час, і ганак стаў пустым: усе разышліся па сваіх справах. Хтосьці пайшоў на возера ці на 2 паверх спаць, а некаторыя засталіся на кухне і гатавалі кампот з ягад, якія назбіралі Наста і Юля.

Усе пачалі падцягвацца на кухню з розных бакоў, як толькі кампот быў гатовы. Мы ўзялі кубкі, печыва і пайшлі да вогнішча. Там і правялі астатні час. Размовы, гульні... Не абыйшлося і без страшных гісторый.

Будаўнік, які застаўся ночыць з намі, распавеў пра тое, што аднойчы здарылася з яго напарнікам у нашым будучым Доме сустрэч. Яго сябар убачыў здань скрываўленай бабулі, якая па мясцовых легендах некалі, яшчэ ў польскі час, жыла ў гэтай хаце, і людзі лічылі яе вядзьмаркай. Хочаце верце, хочаце не, але ў прыбіральню дакладна страшна стала хадзіць!

Потым Рома прыцягнуў да вогнішча гітару, і мы разам спявалі песні. Так і скончыўся другі дзень у весцы Залессе.

### ДЗЕНЬ ТРЭЦІ

У трэці дзень летніка мы прачнуліся ад таго, што прыехаў Зміцер. Натуральна, нам трэба было прачнуцца раней.

Пакуль Зміцер не пачаў лаяцца, мы хуценька апрануліся і пабеглі працаваць. Разам са Змітром да нас прыехалі Лера і Міша. Яны прыехалі ад кампаніі “Правы чалавека на пальцах”.

Нашыя хлопчыкі працягвалі свае справы на 3 паверсе і ў лазні, дзяўчынкі гатавалі ежу і думкамі дапамагалі хлопчыкам, а госці знаёміліся з нашым

**Працяг на ст. 7**



# "ДЗЕДЗИЧ": ТРЕНИНГ ОРГАНИЗАЦИОННОГО РАЗВИТИЯ

**С 26-27 июля в д. Залесье прошел тренинг по стратегическому планированию деятельности АРР «Дзедзіч» при поддержке "Биржи организационного развития".**



В анализе деятельности АРР «Дзедзіч» и разработке плана на будущее приехали волонтёры организации из разных городов, участвовали все желающие.

В первый день нас ввели в курс дела: что такое вообще стратегическое планирование, миссия, цели и задачи организации, SWOT-анализ и многое другое. А потом началась активная работа: как индивидуальная, так и по группам.

Нужно было поднапрячься, чтобы всё правильно сформулировать, вспомнить прошлые ошибки в деятельности и сделать общее представление о том, что в итоге должно получится.

Наверное, самое сложное было услышать друг друга и придти к консенсусу – тут помощь тренера была как раз кстати.

Тренинг проходил во время недельного лагеря в деревне Залесье, в эти дни всё внимание было сосредоточенно на продуктивной работе.

Нашим тренером была Наталья Рябова, которая сразу же грамотно настроила нас на работу, что временами было совсем нелегко.

В первый день важным элементом была доработка миссии организации, которая и так нам казалась хорошей. Но на её доработку ушло немало времени. Также по итогам работы в группах были представлены основные направления деятельности АРР «Дзедзіч» и направления развития в будущем.

Второй день потребовал от нас ещё большего напряжения и креативности. В продолжение прошлого дня прошла презентация миссии. Особое внимание уделялось разработке целей и задач, которые соответствовали миссии и не расходились с направлениями деятельностью организации.

Работа была организована по группам. Каждая группа выбрала своё направление деятельности, в котором она наиболее компетентна. По большей части обсуждались вопросы именно будущей деятельности, на то оно и планирование.

Одной из основных задач было вспомнить, что мы делали раньше, и попытаться запланировать мероприятия подобной тематики, но уже так, чтобы это выглядело логично и системно, в рамках единой стратегии. Это оказалось совсем непросто, и не всё у нас получалось сразу. Но тренинг прошёл не зря и все полученные знания пригодились нам для последующей работы.

Тренинг оказался исключительно интересным, полезным,познавательным и динамичным. Тренер Наталья Рябова предоставила участникам прекрасную возможность овладеть знаниями и практическими навыками в сфере стратегического планирования.

Мероприятие было организовано таким образом, что все полученные знания сразу же апробировались на практике. Было интересно поработать как индивидуально, так и в небольшой команде.

dzedzich.org

# ЗАЛЕССКІЯ ПРЫГОДЫ - 2013!

ладам жыцця.

На абед у нас быў боршч ды бульба з падліўкай. Вельмі смешна, што Міша пераблытаў падліўку з супам. Але гэта абед яму не сапсавала, а зрабіла нашмат смачней. Пасля шчыльнага абеда ў нас пачаўся трэнінг. Нам амаль што за 2 гадзіны паспрабавалі распавесці, што такое правы чалавека і для каго яны існуюць, у якіх выпадках парушаюцца правы чалавека, а ў якіх - не.

Таксама мы пагутарылі пра розніцу паміж праваабаронцамі і палітыкамі, пра большасць і меншасць, свабоду і талерантнасць. Аказваецца, правы чалавека – гэта не пра ўсе на свеце, а вельмі канкрэтныя рэчы.

А далей па праграмме ў нас быў паход на памежную заставу ў веску Такары.

Амаль праз паўкіламетры ад Залесся мы застопілі нейкага дзядзьку, які ехаў канём у суседнюю веску Вульку. Адбылося так, што да заставы мы шлі пешшу, ехалі на возе, а потым на аўтамабілі. Нам распавядалі, што тут усяго 3 кіламетра, а выйшла нашмат больш.

Лейтэнант Саша нам правеў экскурсію па тэрыторыі пагранзаставы, распавеў, чым займаюцца служачыя, і як яны ловяць парушльнікаў. А мы ў знак падзякі зладзілі фаер-шоў.





Дамой нас завез старшы прапаршчык на службовай машыне. Далей былі гарбата, печыва, згушчонка, гітара і вогнішча.

Мы размаўлялі пра правы чалавека, талерантнаць, смяротнае пакаранне, правы ЛГБТ-супольнасці і вегетарыянства. Калі вогнішча згасла, мы разышліся глядзець рознакаляровыя сны.

НАСТУПНЫМ ГОДАМ ДЗЕДЗІЧ ІЗНОЎ ЗАПРОСІЦЬ УСІХ АХВОТНЫХ ДА СЯБЕ Ў ГОСЦІ Ў "ДОМ ЕЎРАПЕЙСКІХ СУСТРЭЧ", ЯКІ ЗУСІМ ХУТКА АДЧЫНІЦЬ СВАЕ ДЗВЕРЫ ДЛЯ КУЛЬТУРНЫХ ІМПРЭЗАЎ І АДУКАЦЫЙНЫХ СЕМІНАРАЎ.

dzedzich.org

# “ЕВРОПЕЙСКИЕ ПЕРСПЕКТИВЫ ДЛЯ БРЕСТА”

**На презентации книги «Европейские перспективы для Бреста», изданной коллективом авторов и АРР «Дзедзич», говорили о позитивном опыте развития, который Брест может перенять у города-побратима Люблина.**




*«Брест сейчас - это Люблин десятилетней давности. Если мы сегодня начнем реализовывать то, что было сделано за эти десять лет в Люблине, то я надеюсь, через десять лет у нас все изменится»*, - поделился своим взглядом директор агентства регионального развития «Дзедзич» и один из авторов книги **Дмитрий Шиманский.**

Книга «***Европейские перспективы для Бреста***» рассказывает о том, чего и каким образом достиг Люблин за последние десять лет в разных сферах, начиная от предпринимательства и заканчивая охраной окружающей среды и организацией работы с молодежью.

Люблин - город, который очень похож на Брест и по структуре отраслей промышленности, и по территориальным и демографическим показателям, и по климатическим условиям. Это дает основания не только сравнивать город над Бугом с побратимом из Польши, но и задуматься о том, какой опыт можно перенять.

Авторы книги в течение года изучали стратегию развития Люблина.

Им удалось собрать под одной обложкой конкретные примеры реализации успешных проектов, которые касаются развития транспорта, сферы услуг, энергетики, защиты окружающей среды и охраны культурного наследия.

Дмитрий Шиманский отметил, что книга будет интересна в первую очередь молодежи, которая разделяет европейские ценности и хочет видеть свой город современным. Полезной книга окажется и для чиновников, экологов, представителей общественных объединений - всех тех, от кого зависит будущее Бреста.

Владимир Красько, физик и один из авторов книги, а также координатор кампании «За вело-Брест!» добавил, что *Европейский союз уже сейчас готов оказывать поддержку многим проектам в приграничном Бресте и во всей Беларуси*.

В подтверждение своих слов он привел в пример программу университетского обмена **Erasmus Mundus,** благодаря которой белорусские студенты имеют возможность ездить на стажировки в европейские университеты.

Однако авторы отмечают, что проблема заключается в том, что белорусская сторона неохотно идет на контакт с ЕС, а ответственные лица не умеют налаживать контакты с европейскими фондами.

*«Цель этой книги - показать на примере Люблина, что Европа может дать при сближении»*, - резюмировал **Владимир Красько**.

Книгу в электронном виде может почитать любой интересующийся. Ее можно скачать на сайте АРР «Дзедзич».

**Фота: racyja.com**
**mybrest.by**

# БЕРАСЦЕЙСКІ АНДЭГРАЎНД

**Брэсцкія рок-гурты спрабуюць неяк працягваць сваё «падземнае» жыццё, не гледзячы на адсутнасць канцэртаў. LITARY даведаліся, як ідуць справы ў брэсцкага музычнага андэграўнда, і пагутарылі аб гэтым і многім іншым з арганізатарам Men’s Fest і шматлікіх рок-канцэртаў Зміцерам Назаравым.**

***Пра арганізацыю канцэртаў:*** Канцэртаў становіцца ўсё меней, і гэта будзе працягвацца. Тут складаная сітуацыя, у Брэсце дык дакладна. Няма пляцовак, а тыя, што ёсць, не вельмі прыстасаваныя для «жывагі» і не надта зацікаўленыя ў ёй. Адсюль вынікаюць вялікія выдаткі на арганізацыю канцэртаў, якія ў большасці сваёй не акупаюцца. Падтрымкі рок-музыкам чакаць няма адкуль. Яны нікому не патрэбны. Ведаеце, у нас у горадзе вялікая колькасць гуртоў з досыць высокім узроўнем, і што? Музыканты заходзяць у сваеасаблівы тупік у нашай краіне і пакутваюць ад гэтага. Няма ў нас індустрыіі шоў-біза, як, напрыклад, у суседняй Украіне.

Нам са «Сьцяной» пашанцавала выступіць на буйным рок-фэсце Ўкраіны – «Найкраще місто UA» у Днепрапятроўску. Там пры падтрымцы губернатара ладзіцца трохдзённы фэст, які збірае па 70 000 чалавек і запрашае міравых зорак.

***Пра развіццё рок-гуртоў:*** Андэграўнд развіваецца, гурты рэпетуюць, выдаткоўваюць свае грошы на запісы, спрабуюць недзе выступаць, але гэта ўсё на ўзроўні альтруізма.

«Дай дарогу!» – малайцы. Гэта сапраўдныя зоркі Беларусі, якія збіраюць залы па ўсёй краіне. Нажаль гэта адзіны паспяховы гурт у нашым горадзе, які таксама ігнаруецца на афіцыйным узроўні.

Музычная супольнасць Брэста варыцца ў сваім саку. Некаторыя нешта пішуць, па магчымасці выязджаюць на нейкія канцэрты, але гэта наўрад ці можна назваць развіццём. Тэндэнцый да развіцця і паспяховасці альтэрнатыўнай музыкі ў Брэсце пакуль няма.

***Пра наведвальнікаў фэстаў і Men’s Fest:*** На мой погляд, а ён заўжды суб’ектыўны, на канцэрты людзі ходзяць вельмі неахвотна. Што датычыцца Men’s Fest, дык тут таксама цяжка сказаць, ён спрыяе развіццю ці не… Тое, што звяртае ўвагу на яксныя гурты, – гэта дакладна. У гэтым годзе будзе лайтовы спіс гуртоў, але яны вельмі прафесійныя і цікавыя. Тыя, хто прыйдзе, будуць 100% задаволеныя.

Фэст больш-менш вядомы ў Брэсце і выклікае цікавасць і ў нашых украінскіх ды польскіх сяброў.

Мне хочацца, каб фэст заўжды асацыяваўся з якаснай беларускай музыкай. І мы на гэта працуем. Час пакажа. Вера павінна быць заўсёды. Шкада, што публіка становіцца вельмі абыякавая да свайго…

***Пра стаўленне ўлады:*** Ведаеце, каб наш горад стаў цікавым культурніцкім цэнтрам Беларусі, мала такіх вось людзей, як я і мая каманда. Патрэбна іншае стаўленне мясцовай ўлады. У нас з года ў год нічога цікавага не адбываецца. Лета – а што ў нас у горадзе? Паглядзіце праграму культурніцкіх падзей Львова на лета, і ўсё стане зразумела.

Да такіх, як я, ставяцца з засцярогай і недаверам. Усюды спрабуюць выявіць і пабачыць крамолу. І гэта нагадвае нейкую параною. Але, прасоўваючы беларускае, я ўжо звыкся з гэтым у нашым горадзе.

***Пра культурна-музычныя недахопы:*** Ініцыятывы не хапае. Не хапае жадання пазнаёміцца, пабачыць нешта




новае, і не апошнюю ролю ў гэтым грае інтэрнэт. Сацыяльныя сеткі – балота для моладзі. Хаця, што рабіць з ініцыятывай у Брэсце, я шчыра кажу: не ведаю. Да каго бегчы, да каго звяртацца?

У Польшчы вельмі часта наведваю культурніцкія гарадскія мерапрыемствы, нават удзельнічаў у арганізацыі. Дык там у арганізацыйны камітэт Дня горада заўсёды ўваходзяць актывісты з горада! Гэта актыўная і крэатыўная моладзь, і іх успрымаюць, іх слухаюць! У нас жа – самі бачыце, як і што. Вынік – нецікава, несучасна і прэсна. Беларусы ўсё болей гатовы плаціць грошы і з’язджаць на фэсты і падзеі культурніцкага плана ў Польшчу, Літву ды Украіну. А ў нас не робіцца нічога, каб прывабіць турыстаў з валютай да нас. Глядзець на адні ліхтары і чыстату вуліц ніхто не паедзе.

КУЛЬТУРА ПАЛЯПШАЕ ЖЫЦЦЁ, ЯКОЕ НЯСПЫННА БЯЖЫЦЬ НАПЕРАД. ТУРБУЙЦЕСЯ ЗА СВОЙ УНУТРАНЫ СВЕТ – ЯГО ПАЛЕПШЫЦЬ МОЖАЦЕ ТОЛЬКІ ВЫ.

**Паводле litary.net**

# СЛОЎНІК ПАМЕРЛЫХ СЛОВАЎ

**Віктар Марціновіч піша пра словы і рэчы, што знікаюць з нашага жыцця.**




Праходзіў побач з маднявай кавярняй у лонданскім стылі, што адчынілася два месяцы таму на месцы, дзе раней ці то цыган, ці то каўказец гандляваў шашлыкамі. І вось уявіце сабе: вечар, дасканалая па дызайне веранда, за ёй, праз шкло — акварыум інтэр'ера з манернымі лонданскімі ліхтарамі, зялёнымі скуранымі фатэлямі а la Irish pub, чырвонымі тэлефонамі-аўтаматамі.

На першым плане, на верандзе, на тле ўсёй гэтай дызайнерскай "кілбасы", сядзяць два разлаваныя дзядзькі, па выглядзе бачна — былыя "каралі раёна". На стале ў іх — лафітнічак з водкай, з закусі — па шклянцы таматнага соку. Адзін аднаму кажа: "А тут жа раней такі кабак быў"! Другі ківае і замахвае чарку, як на хаўтурах, па нябожчыку. Трагедыя ў пацаноў. Кабак закрылі.

І раптам да мяне даходзіць: вось гэтую маднявую кавярню ну ніяк не назавеш "кабаком". А смуродную ўстанову, што была тут дагэтуль, якраз назваць было б можна. І што слова "кабак" праз глабалізацыю, якая не ёсць гуд, хутка вымыецца з нашай мовы. Што, здаецца, якраз ёсць гуд.

Разам са словам "кабак" вымыецца і ўжо вымылася шмат чаго цікавага. Зразумець сэнс гэтых словаў хутка будзе гэтак жа складана, як сэнс словаў "дэбаркадэр" (плывучая прыстань на рацэ), "каксагіз" (расліна), ці "даба" (танная баваўняная тканіна). Зафіксуем жа гэтыя словы для музея памерлых моўных выразаў, які абавязкова трэба стварыць на прасторах сеціва.

Адно што дамовімся: не будзем турбаваць памерлыя душы тых слоў, што прайшлі праз тэхнічны прагрэс, які ёсць з'явай аб'ектыўнай і да мовы і нашага грамадства ніякага дачынення не мае. У гэтым сэнсе "пэйджар" не меў ніякіх шанцаў, гэтаксама хутка здохне і слова "лэптоп", выціснуты "планшэтамі". Дык давайце памянём канцэпты, паняцці, выцесненыя працэсамі ў грамадстве — танюткімі, напаўзаўважнымі зменамі ў культуры!

Ну, вось, першае, што прыходзіць у галаву — пярсцёнак-пячатка. Гэта быў знак статуса, які праз сучасную змену стаўлення да "ювеліркі" ператварыўся ў знак антыстатуса. Старажытны выраб з багатымі шляхецкімі каранямі, у савецкія часы пярсцёнак-пячатка набыў новае гучанне: залатыя "пячаткі" насілі заўмагі і іншыя "салідныя мужчыны". Дарэчы, разам з "пячаткаю" пайшлі з моды "залатыя зубы" ды "футравыя шапкі". Так-так, нашчадкі, што чытаюць гэты тэкст у 2100 годзе! Некалі ў Беларусі выраблялі каронкі з золата, і гэта лічылася вяршыняй прыгажосці!

А памятаеце шафы-горкі? Іх дагэтуль можна сустрэць у сіх-тых постсавецкіх інтэр'ерах: зробленыя са шпанаванага ДВП, яны ўмяшчалі святочны посуд і крышталь, з якога можна было піць на Новы год савецкае шампанскае. Не піць жа з крышталю кефір за вячэрай — такая была логіка. Дзеля таго, каб выставіць напаказ усяго толькі урачыстыя талеркі, пакоі невялічкіх савецкіх кватэр загрувашчваліся вялізарнымі шафінамі — такі быў час. Кажуць, мода пайшла з Усходняй Германіі, але хутка прыжылася, бо цалкам адпавядала савецкай сутнасці.

А вось мілая рэч з тых часоў — турка ці, як яшчэ казалі, джэзва. У той час, як на Захадзе развівалі індустрыю кухонных эспрэса-машын, у нас варылі каву ў медзяных турачках. Караткевіч, згодна з апокрыфам, перад тым, як ставіць каву на агонь, раскусваў адно зярнятка зубамі і кідаў у джэзву. Глабалізацыя цалкам выціснула туркі з кавярняў (бадай, апошнюю можна пабачыць у "Валерыі" на Валадарскага), павольна выціскае іх і з кухняў. Я ўжо некалькі гадоў карыстаюся італьянскай гейзернай Vigano.

Страціла ўласную прыцягальнасць азначэнне "імпартны". Раней гэтым словам апісвалася ўсё добрае, што ёсць на гэтай зямлі. А цяпер у нас усё імпартнае.

Яшчэ адно слова-мара з сівой мінуўшчыны — "іншамарка". Некалі на ўзроўні канатацыі яно азначала белы "мерсэдэс" з эфектнай бландзінкай на капоце, нават калі на ўзроўні дэнатацыі размова ішла пра дваццацігадовую "бэху". Цяпер усе нашыя тачкі — іншамаркі.

А памятаеце, памятаеце такога звера, як "касуха"? У Вудстаку хіпі насілі баваўняныя свабодныя кашулі, у суворай Беларусі слова "хіпі" чамусьці асацыявалася з "валасатым" у "касусе". "Касухі" таксама цягалі "любера", "рокеры" ды іншы люд. "Касуха" знікла разам з паняццем вікцімных "валасатых", бо сучасныя валасатыя (напрыклад, new-панкеры) ахвотна насуюць у рожу любому "лысаму", якому хопіць глупства прычапіцца да іх "праз валасы".

Гуд бай, "чабурэкі" (у Мінску засталася адзіная "Чабурэчная" на Валадарскага)!

Вось яшчэ адно паняцце, якое трэба будзе хутка тлумачыць — інтым (які не прапаноўваць). Яно паходзіць з тае цнатлівае пары, калі СССР, дзе сэксу не было, ужо знік, а капіталістычных механізмаў працаўладкавання яшчэ не наладзілася. У газетах прыватных аб'яваў можна было часцяком пабачыць: "Маладая дзевушка без адукацыі шукае работу. Інтым не прапаноўваць". З цягам часу "інтым" зрабіўся моцным неалагізмам, якім працалася ўся рэальнасць 90-х. З'явіліся "крамы інтыму", "паслугі інтыму". Мне здаецца, у гэтага слова быў шанец выціснуць бяздушнае англамоўнае "сэкс", але дзіцячая наіўнасць "інтым" спасавала.

Пайшло ў мінулае слова "круты". Цяпер усе аднолькава "крутыя". Сітуацыю, калі падразаеш джып, а адтуль высоўваецца пацык са ствалом, устаўляе ў пісталет абойму і з абаяльнай усмешкай "цэліць" табе ў галаву (рэальны выпадак, Партызанскі праспект, пачатак 2000-х), ужо нават не ўявіць. Апісваць маёнткі на ўзбярэжжы Цны ці ў Тарасава словам "круты" — значыць, прыніжаць іх уладальнікаў да ўзроўню людзей, што накралі крэдытаў і дамовіліся з бандытамі, што "дахуюць" банк, каб іх не чапалі. Схема "ўсіх пастраляць" засталася ў мінулым, а разам з гэтай схемай — слова "разборка", бо нават класічныя "разборкі" ды рэйдарскія захопы буйной маёмасці ладзяцца ў нас выключна ў межах "прававога поля", якое для такіх выпадкаў проста бязмежна пашыраецца.

Не перакрочыла мяжы 2000-х савецкае слова "блат". Цяпер яго замяніла слова "сувязі". У савецкага беларуса цётка магла працаваць у прыёмнай камісіі вуза і гэта забяспечвала паступленне "па блаце". Цяпер з цёткай у прыёмнай камісіі вуза даможашся хіба што прыёму тваіго паліто ва ўніверсітэцкім гардэробе без чаргі.

Сыходзіць выраз "накрыць паляну". У сучасных сеціўных кавярнях гэта проста немагчыма — "накрыць паляну": побач будуць сядзець абыякавыя кліенты ды сцябацца з дзівакоў, што балююць за той "палянай".

Мова — жывая стыхія. Галоўнае, каб разам з гэтымі "перажыткамі", разам з незаўважнымі, танюткімі зменамі ў культуры не пайшлі ад нас такія словы, як "шчырасць", "дабрыня", "чалавечнасць" і, напрыклад, "шчасце".

**Паводле budzma.org**

# БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК НЕ ВЕРНЁТСЯ НА УРОКИ ИСТОРИИ И ГЕОРГАФИИ

**В этом году в школах не будет вводиться обязательное изучение истории и географии Беларуси на белорусском языке, сообщил министр образования Сергей Маскевич на пресс-конференции 15 августа в Минске.**

По его словам, эти предметы будут преподаваться на том языке, который выберут ученики и их родители.

Напомним, в мае прошлого года в Минобразования заявили, что может быть введено обязательное изучение истории и географии страны на белорусском языке.

Сообщалось, что для нововведения требуются значительные финансовые и кадровые ресурсы: на издание учебников по истории Беларуси для всех параллелей необходимо более 10 млрд. рублей, учебников по географии Беларуси, которая изучается только в 10-м классе, — еще 1,3 млрд.

По мнению Маскевича, историю Беларуси логичнее преподавать на белорусском языке. Министр также выразил личное пожелание, чтобы школьники чаще выбирали преподавание на белорусском языке, и подчеркнул, что обращает внимание начальников областных и районных отделов образования на необходимость расширения употребления белорусского языка в школах.

В то же время глава Минобразования отметил, что «молодежь хочет учиться на том языке, который даст ей большую перспективу в жизни».

«Для нас сегодня русский язык дает значительные перспективы, поэтому изучение естественнонаучных предметов на нем очевидно», — сказал Маскевич.

По его мнению, скоро в Беларуси будет активно расширяться обучение на английском языке.

«Я уверен, в этом есть потребность и общественная, и государственная. Здесь мы отстаем от других стран, где многие считают, что без хорошего владения английским в профессиональной деятельности перспектив немного», — отметил министр.

**Паводле naviny.by**

## XXI ВЕК. БЕЛОРУССКОЕ СОПРОТИВЛЕНИЕ

**Сдохла свинья. Чтобы не напала реквизиция, мужик позвал соседа и в потемках, тайком, оттянули они ее подальше от деревни и закопали без слез и формальностей.**

- Свиньи всегда умирали, - говорит. - Покупаем корм у пьяниц с фермы. От этого корма, бывает, и свиньи дохнут, и куры слепнут. А то и ничего им не делается. Всегда так было - жизнь ...

Ну так вот ... Закопали мы ту свинью, но нашлась одна активная дура и позвонила в район. Только в районе тоже наши люди, деревенские. Не знаю, что уж они ей ответили, но не поехали. А она все успокоиться не может - звонит в область. И вот эти уже спецбригаду выслали. Спасибо мужу её, что предупредил. Так мы работы оставили, быстренько домой бросились - ждем. Но ведь не знаем, с какой стороны они будут на нас нападать, поэтому целую спецоперацию организовали. Детей на велосипедах послали в разные стороны. Мобильники им дали, чтобы звонили сразу, как только увидят машины. А сами - кто с колом, кто с вилами - вышли защищать свиней. Все мужики вышли! Наша деревня дружная, вы не думайте, хотя одна дура все-таки нашлась.

И вот едут. И милиция, и ветеринары, и какие при галстуках. Мы стали напрямую поперек дороги, чтобы даже не дать въехать в деревню. Старые, молодые, дети с велосипедами ... Говорим: «Нечего вам тут делать, не болеют наши свиньи, не отдадим».

Милиционеры - сразу в сторону (ничего плохого не скажу о милиции). А ветеринары и те, в галстуках, давай угрожать. «Не имеете права. Посадим. Оштрафуют. Приказ. Сопротивление лицам при исполнении ...»

Но мы стеной стоим. Злость какая-то и страха никакого. «Не отдадим и все, езжайте отсюда».

Они пытаются ехать - мы навстречу с вилами. Останавливаются, людей давить бояться. Крик, ругань ... Если бы Лукашенко был, то, может, и порвали его люди, не знаю.

Бабы тем временем выгнали свиней в колхозную кукурузу: повезло, что поле прямо за огородами. Как справились - то и они прибежали к нам. А уж где бабы - там крик такой, что не передать. Ветеринар какой-то бумажкой трясёт, а одна выхватила да на куски. Они ему и глаза готовы были вырвать, не то что ...

Короче, эти, со спецбригады, поняли, что тут уже не свиньи, а люди убиты могут быть, и, видимо, испугались.

«Хорошо, - говорят. - Хотя бы покажите, где свинью закопали».

Ну, уж эту свинью мы им отдали. С ней они и поехали.

Своих свиней мы потом еще два дня по кукурузе вылавливали. Все поле они потравили. Спасибо председателю, и слова не сказал, потому что все понимает - человек. А вот бабе то, что реквизицию вызвала, сейчас в деревне места нет, люди в глаза плюют. Может, и дом сожгли бы, если бы не мужик ее. Правда, вот еще что ...

Все вокруг нашу историю слышали, куда ни придем - расспрашивали. Только тут недалеко еще одна деревня есть, с той же фермы корм покупали, то и там (уже после нас) все равно одна стерва активная нашлась. У людей всех свиней уничтожили, заживо сжигали, бабки сознание теряли. Что уж ей будет - не знаю. Но, посмотрите, что-то будет. Люди ей не простят.

Да и что она натворила своим длинным языком? Зачем? Думала, если заложит, ее свиней трогать не будут? Так всех уничтожили. И ее уничтожили.

... Когда-то отец мне притчу рассказывал про белорусов: Вызвал Бог белоруса и говорит: Проси, что хочешь. Только твоему соседу я дам в два раза больше. Белорус подумал и попросил: выколи мне глаз.

Ну что за люди?

**X X X**

Свиньи у людей остались. Не все, правда. Что могли поместить в холодильники и морозильники - то убили. Остальных растят. Поэтому я дурой не буду, и где все это происходило, не скажу. Разве только позже, писателям. Кажется, с такими сюжетами новый Мележ может родиться. А то и Быков ...

**nv-online.info**

# ЧИНОВНИКИ СОЗДАЮТ РУЧНЫХ ЭКОЛОГОВ?

**Кто такие общественные экологи? На этот вопрос с недавнего времени отвечает утвержденное 20 июня этого года Совмином Положение «О порядке деятельности общественных экологов».**

Ответ предельно простой – общественные экологи назначаются и действуют под руководством государственных чиновников аппарата Минприроды и Минского городского комитета природных ресурсов.

«Бляху» «общественного эколога» претенденту дают после изучения его деловых и моральных качеств.

Сразу поясню: если вы выступаете за защиту окружающей среды и против АЭС, против освоения загрязненных Чернобылем земель, то вряд ли сможете стать общественным экологом, поскольку очевидно, что у вас проблемы с моральными качествами.

ПРИЗНАВАТЬ АЛЬТЕРНАТИВУ АЭС АМОРАЛЬНО, ТАК КАК ЭТО СВИДЕТЕЛЬСТВУЕТ О ТОМ, ЧТО ВЫ НЕ ЛЮБИТЕ ВЛАСТЬ. А НЕ ЛЮБИТЬ ВЛАСТЬ, ЭТО КАК НЕ ЛЮБИТЬ СВОЮ ЗАКОННУЮ ЖЕНУ – АМОРАЛЬНО.

Вы должны любить власть, отдавать ей всего себя, не относиться к ней критично, ни с кем ей не изменять, во всем ей потакать. Иначе какой же из вас общественный эколог?

Общественный эколог должен светить всегда и везде инкорпорированными цезием, стронцием и плутонием исключительно в знак полного доверия к отечественным ПДК и системе так называемого государственного радиационного контроля.

Если вы за деревья, но против уплотнительной застройки, то вы, скорее всего, также не станете общественным экологом, поскольку с деловыми качествами у вас, вероятно, проблемы. Ведь вы не понимаете, ЧТО «городу» (читай, отдельным чиновникам и близким к ним бизнесменам) нужнее – деревья, спасающие от сумасшедшей жары и загазованности, или инвестиции, которых город все равно не получит. Жаре тоже нет альтернативы, а инвесторы на дороге не валяются!

Что же будут делать общественные экологи?

Думаю, рассказывать о якобы пользе атомной энергетики и происках Литвы, которая АЭС не строит и другим не дает. Кроме того – займутся истреблением интродуцентов и вредных видов – борщевика, волка, медведя, кабана, енотовидной собаки и бобра. Работы хватит на всех – приходите записываться, кому еще нет 30 лет, корки БРСМ не забудьте.

Будете хорошо работать в качестве общественного эколога, вас смогут слегка поощрить, но на новенький Мерседес не рассчитывайте – их дают не всем, а только родственникам и близким особо продвинутых «людей системы».

Постановлением предусмотрены в качестве меры поощрения благодарность и почетная грамота.

А если серьезно – то я совершенно не понимаю, зачем властям понадобилось это постановление и эти «общественные экологи». Противопоставлять «проводников вертикального импульса» реальным экологам и общественным деятелям, стравливать их? Боюсь, с одной стороны поздно, с другой – неэффективно. С третьей – для мирового сообщества это еще одно свидетельство антидемократических преобразований, затрудняющих реализацию Орхусской конвенции в Республике Беларусь.

**belaruspartisan.org**

# ПАЎСТАННЕ КАЛІНОЎСКАГА

**Вясна 1863 году была найбольш насычана на падзеі ў паўстанні Каліноўскага. Самаадданая барацьба, гераічнасць і перакананасць касінераў на поўную моц сышлася з рэпрэсіўнай машынай царскага ўраду - жорсткім і цынічным вайскова-адміністрацыйным апаратам Мураўёва-вешальніка, які прывёў на падаўленне паўстання амаль усе вайсковыя рэзервы імперыі.**



Гэта быў вырашальны момант, з якога пачалася трагічная развязка нацыянальна-вызвольнага ўздыму. Але тады ж, у агоніі і пакутах, была да канца сфармавана Беларуская ідэя Каліноўскага - ягоная мара пра вольную краіну з роўнымі і годнымі грамадзянамі, што жывуць паводле законаў, а не ўказаў.

Першыя атрады паўстанцаў з'явіліся на тэрыторыі Беларусі яшчэ ў студзені-лютым 1863 году. Найбольш значным з іх быў атрад Р. Рагінскага, які ў сутычках з урадавымі войскамі дайшоў рэйдам да Слуцкага павета, дзе і быў разбіты. Масавае фарміраванне мясцовых атрадаў пачалося ў сакавіку-красавіку. Многія з іх былі знішчаны карнікамі адразу.

Адносны поспех мелі ў пачатку выступлення паўстанцы пад камандаваннем Л. Звяждоўскага, якім удалося з дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута заняць у ноч на 24-га красавіка павятовы горад Горкі Магілёўскай губерні. Аднак там яны не сустрэлі істотнай падтрымкі мясцовых сялян, і неўзабаве атрад Звяждоўскага таксама быў разбіты.

Няроўнасць сіл вымушала паўстанцаў прытрымлівацца партызанскай тактыкі барацьбы. Спадзяванні на замежную дапамогу не спраўдзіліся. Заходнія краіны абмяжоўваліся толькі дыпламатычнымі нотамі пратэсту. А марскую экспедыцыю, што мелася даставіць да літоўскіх берагоў валанцёраў і зброю з Брытаніі, затрымалі шведскія ўлады. Трагічна скончылася і травеньская спроба высадзіць паўстанцкі дэсант з парусніка «Эмілія» паблізу Мемеля (Клайпеды). У справе дыпламатыі царскія ўлады перайгралі інсургентаў.

Амуніцыя і правіянт касінераў таксама саступалі забеспячэнню арміі захопнікаў. Агнястрэльнай зброі не ставала, паўстанцы-сяляне амаль усе ваявалі толькі сякерамі ды косамі. Інсургенты нападалі на царскія войскі там, дзе колькасць апошніх не была занадта вялікай, захоплівалі павятовыя касы, адбівалі навабранцаў-рэкрутаў.

Але часам адбываліся і буйныя сутычкі паміж варагуючымі бакамі. Найбольш значная – бітва пад Мілавідамі, (цяпер Баранавіцкая вобл.), што адбылася 22 траўня 1863 года. Перамога тады не дасталася нікому. Пасля некалькіх гадзін бою расійскія войскі з вялікімі стратамі мусілі адступіць. А паўстанцы, не сталі чакаць, пакуль праціўніку прыйдзе падмацаванне, і таемна пакінулі свой лагер.

Абмежаваная праграма паўстання, што была прапанаваная «белымі», выключыла магчымасць масавага ўдзелу ў ім сялянства. Буйныя землеўласнікі і буржуазія, што раней выступалі наогул супраць паўстання, калі яно пачало набіраць моц, вырашылі ўзяць ход барацьбы пад уласны кантроль, каб не дапусціць разгортвання шырокай народнай вайны з удзелам сялян.

У лютым 1863 -га адбыўся «белы пераварот», калі буйныя памешчыкі, увайшоўшы ў змову з польскім цэнтрам, захапілі ўладу ў віленскай паўстанцкай арганізацыі. 27 лютага быў распушчаны Літоўскі Правінцыйны Камітэт - галоўны орган кіравання паўстаннем на Беларусі. Замест яго «белыя» стварылі свой Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы на чале з Я. Гейштарам. Каліноўскі быў накіраваны на Гродзеншчыну, на пасаду ваеннага камісара, што сам Кастусь ў сваім лісце назваў «гібеллю і здрадай рэвалюцыі».

Кіраванне «белых» мела фатальныя наступствы для ідэі «усенароднага ўздыму», якую актыўна і паспяхова рэалізоўваў Кастусь Каліноўскі. Афіцыйная царская прапаганда выстаўляла ўзброеную барацьбу як мяцеж польскіх паноў, якія жадаюць вярнуць стары прыгонніцкі лад. Тое, што «белае» кіраўніцтва паўстаннем складалі ўжо адныя памешчыкі, толькі ўпэўнівала сялян у правільнасці расійскай прапаганды. Скасаванне часоваабавязанага становішча і змяншэнне выкупных плацяжоў на 20% яшчэ больш умацавала сялянскую веру ў «цара-бацюхну». Па вёсках, асабліва ў памежных з Расіяй рэгіёнах, ствараліся «сельскія каравулы» з узброеных сялян, якія пад камандаваннем рускіх салдат павінны былі лавіць паўстанцаў. Альтэрнатыўная пазіцыя і меркаванне новага паўстанцкага кіраўніцтва да шырокага кола насельніцтва ніяк не даносілася. «Мужыцкая праўда» Каліноўскага ў час самога паўстання выйдзе толькі адзін раз, і тое летам, калі Каліноўскі зноў узначаліць паўстанне пасля капітуляцыі «белых».У сярэдзіне траўня сітуацыя ўскладнілася, калі ў на пасаду віленскага генерал-губернатара прыбыў з надзвычайнымі паўнамоцтвамі М. М. Мураўёў. Былы дзекабрыст, які здрадзіў ранейшым поглядам, чалавек, што прымаў удзел у падаўленні папярэдняга паўстання 1830 года, ён усталяваў у краі становішча масавага тэрору, за што і атрымаў ад сучаснікаў мянушку Вешальніка.

Да забароны насіць жалобныя строі дадаліся новыя, яшчэ больш жорсткія пастановы. Мураўёўцы не грэбавалі нічым. Няўгоднаму маглі вельмі проста падкласці зброю ці нейкія іншыя кампраметуючыя рэчы. А далей… Дастаткова было двух сведкаў (на іх мінулае і сумленне ніхто не зважаў), каб ваенны суд мог прыгаварыць любога чалавека да смерці. Па малейшым падазрэнні ў спачуванні паўстанцам людзей высылалі ў Сібір. Спальваліся за сувязь жыхароў з інсургентамі цэлыя вёскі.

Беластоцкі жандарскі штаб-афіцэр С. І. Штэйн у сваім «Донесении… …о сожжении с. Яворовки за активное содействие его жителей повстанцам» пісаў:

«…по распоряжению начальника края, жилые дома… …с хозяйственными строениями… …6-го сего августа сожжены до основания, а скот, всё движимое имущество, вместе с жителями доставлены в г. Белосток, где оные… …находятся под арестом, а имущество продаётся с аукционного торга…».

Тыя салдаты імперскай арміі, якіх сумленне пераводзіла на бок паўстанцаў, падлягалі расстрэлу. Некаторыя акцыі вешальніка проста ўражваюць неприхаваным цынізмам. Гэтак ёсць звесткі, што на загад «начальніка краю» маглі страчаных паўстанцаў заліваліся вывезеным з віленскіх прыбіральняў гноем, каб не дапусціць правядзення побач маўклівых маніфестацыяў.

У чэрвені пракацілася цэлая хваля арыштаў членаў Віленскага паўстанцкага аддзела. Замены арыштаваным не знаходзілася, і «белыя» былі вымушаны вярнуць у Вільню Каліноўскага. Пры ім, каб вярнуць страчаны давер сялянства, ад імя «ронду польскага» быў выдадзены «Прыказ... ...да народу зямлі літоўскай і беларускай», галоўная думка якога зводзілася да таго, што:«дзела наша (паўстанне) – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці».Такім чынам, «чырвоныя» зноў сталі на чале паўстання. Каліноўскі абвінавачваў варшаўскі цэнтр у неразуменні патрэб Беларусі і аднавіў сваю палітыку на дасягненне незалежнасці Вільні ад Варшавы ды раўнапраўя ў адносінах паміж імі. Але Варшава ўжо і не хацела змагацца. Буйныя памешчыкі і вышэйшае каталіцкае духавенства, напалоханыя мураўёўскімі рэпрэсіямі, у чэрвені-ліпені ўжо масава перайшлі на бок афіцыйных уладаў, што замацоўвалася падпісаннем вернападданніцкіх адрасоў Аляксандру ІІ. У процівагу вернападданніцкім адрасам інсургенты арганізоўвалі збор подпісаў пад контрадрасамі, якія планавалі пазней апублікаваць у замежным друку. Аднак пазней, паўстанцкае кіраўніцтва само было вымушана дазволіць падпісанне тых адрасоў Аляксандру ІІ, бо кожнага, хто адмаўляўся паставіць подпіс пад гэтым дакументам, маглі аддаць пад суд.

Каліноўскі і ягоныя паплечнікі засталіся вернымі сваім прынцыпам. Нават у безнадзейнай сітуацыі яны спрабавалі хоць неяк змяніць расклад сілаў: за зваротам да народу Беларусі выйшла чарговая «Мужыцкая праўда». Кіраўнікі засяродзіліся на справе пераканання сялянства ў патрэбе далейшага змагання за вольнасці краю. Вялося актыўнае назапашванне вайсковых рэсурсаў для далейшай барацьбы. Ад адкрытых баёў паўстанцы вымушаны былі адмовіцца, але часцяком здараліся лакальныя сутычкі інсургентаў з царскімі ўраднікамі.

Вясна 63-га вырашыла, бадай што, ўсё. Пасля фатальных памылак аднавіць папярэдні накал паўстання ўжо не ўдалося. Кастусь Каліноўскі аддана працягваў барацьбу за свае ідэалы да 22 сакавіка 1864 году, пакуль яго не спыніла царская шыбеніца. Беларусь з гэтага часу стала арэнай дзікай рэакцыі. Беларускі народ не прызнаваўся, як і раней, самастойным этнасам, наша мова трапіла пад забарону, культурныя здабыткі знішчаліся ці вывозіліся ў Расею. Да канца 60-х гадоў край заставаўся на ваенным становішчы, а гэта значыць, працягвалі дзейнічаць выключныя законы ваеннага часу. Была зачынена адзіная вышэйшая школа, што заставалася на Беларусі – Горы-Горацкі земляробчы інстытут, і далейшыя хадайніцтвы аб адкрыцці на нашых землях ВНУ адхіляліся расійскім урадам. Больш за тое, нават колькасць гімназіяў у краі здавалася Мураўёву завялікай. Замест іх планавалася адчыніць народныя вучэльні, дзе выкладанне павінна было весціся цалкам у духу адданасці рускаму самадзяржаўю. Рэзка актывізавалася «водворение русского элемента»: мясцовыя настаўнікі, чыноўнікі пераводзіліся на службу ў цэнтральныя губерні імперыі, адтуль жа запрашаліся для работы на вызваленых месцах карэнныя рускія. Царскія генералы і чыноўнікі маглі на ільготных умовах набываць маёнткі, канфіскаваныя ва ўдзельнікаў паўстання.

Але разам з тым у выніках паўстання было шмат пазітыўнага. Пад пагрозай народнай рэвалюцыі, царызм быў вымушаны пайсці на значныя ўступкі беларуска-літоўскаму сялянству і змякчыць для яго ўмовы лютаўскай рэформы 1861 года. Апроч таго, менавіта тады сфармаваліся асновы самастойнага, без аглядкі на Польшчу (Рэч Паспалітую), беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Выразнікам і першым носьбітам гэтых ідэй і быў Кастусь Каліноўскі. Дзякуючы людзям, якія пазбеглі арышту і засталіся вернымі справе незалежнасці, у тым ліку літаратарам, мастакам, навукоўцам, вырасла новае пакаленне барацьбітоў за Беларусь, з імёнамі якіх звязана наша нацыянальнае адраджэнне ў пачатку ХХ стагоддзя.

reha.of.by

## ДАРЭЧЫ

Уладальнік мясакамбіната прывёў вялікаўзроставага сына на вытворчасць - гады ідуць, старасць не за гарамі, справы трэба камусьці перадаваць і г.д.

- Глядзі, сынок, вось машына. Сюды кідаеш барана, а адгэтуль вылятае тры палкі каўбасы. Усё проста. Зразумеў?

- Не-а.

- Ну вось сюды барана, а адгэтуль тры палкі! Зразумеў?!

- Не-а.

- Б..., туды барана, адтуль - тры палкі!!! Што незразумелага?!!!

- Тат, а ёсць такая машына, каб туды тры палкі, а адтуль баран?

- Ёсць, б..., гэта ТВАЯ МАМА!

***

Калі суседскія дзеці моцна шумяць, скажыце ім праз сценку, што вы гномік, які жыве ў электрычнай разетцы, і вас трэба пакарміць цвікамі.

***

Аднавокую дзяўчынку больш не цікавіць, хто жыве ў шпакоўні.

***

Віншаваць вучня ці настаўніка 1 верасня з Днём Ведаў усё адно, што павіншаваць каня з пачаткам вяснова-палявых прац.

***

Суд. Суддзя - бландынцы:

- Чаму Вы атруцілі суседзяў?

- Мне ў краме сказалі, што лепш труціць прусакоў разам з суседзямі.

***

Калі ў гутарцы з сяброўкай жанчына кажа «... і мой таксама...» - верагоднасць таго, што вас хваляць, роўная нулю.

***

У цырку. Выступае дрэсіроўшчык алігатараў. Драпежнік адкрывае зяпу, дрэсіроўшчык расшпільвае шырынку і ўсю сваю гаспадарку кладзе ў пашчу алігатару. Алігатар яе зачыняе. Потым дрэсіроўшчык ударае звера па галаве, і той адкрывае пашчу. Дрэсіроўшчык звяртаецца да публікі:

- Хто зможа паўтарыць?

Жаночы голас з залы:

- А па галаве біць не будзеце?

***

Новая брытва для ног галіла так гладка, што з Марыны звальваліся калготкі.

***

- А давай я перапрануся і здам за цябе што-небудзь?

- Ага, адпусціш доўгія валасы і зменіш пол?

- А пол-та вось навошта мяняць, яны ж у трусы да мяне не палезуць... Ці я штосьці не ведаю пра здачу іспытаў у тваім інстытуце?!

***

- Пакуль, я спаць.

- Рана неяк ты сёння...

- Ды я рэжым хачу ўсталяваць нармальны.

- Глядзі, акуратней у гэтай краіне! Пасадзяць.

***

Не марнуйце грошы на адзежу. выдаткоўвайце іх на вандраванні. Якая розніца, колькі гадоў вашым кедам, калі вы шпацыруеце ў іх па Парыжы.

Кідальніца ядра ўжо чацвёрты дзень не можа данесці кавун да хаты.

***

- Спрэчкі ў інтэрнэце - гэта як Алімпіяда для дэбілаў! Нават калі ты выйграеш - ты ўсё адно дэбіл...

- Затое ты дэбіл, які выйграў!

- Добра, не буду з табой спрачацца.

***

- Сёння жудасна не выспаўся - малы ўсю ноч не спаў...

- Так ты яму калыханку праспявай!

- Я спачатку спяваў - але потым на сходзе жыхароў вырашылі, што лепш хай малы крычыць!

***

Амапавец лупіць дэманстранта дубінкай: «Нельга заклікаць да звяржэння ўлады!».

Дэманстрант, спрабуючы ўвярцецца: «Ды я не заклікаў! Я ўсяго толькі за сумленныя выбары!».

Амапавец пачынае лупіць яшчэ мацней: «Дык сумленныя выбары - гэта і ёсць звяржэнне гэтай улады!».

***

Воўк падыходзіць да зайца.

-Заяц, што ты тут сядзіш і пішаш?

-Дыплом.

-А на якую тэму?

-Як зайцы ядуць ваўкоў.

-Ты што, афігеў, касы?! А ну пойдзем вось у тыя кусцікі, разбяромся, хто каго!

-Добра, але давай-ка лепш у тыя.

Заходзяць, а там мядзведзь - бярэ ваўка, скручвае ў вузел і падае зайцу.

-Запомні, шэры, не важна, якая тэма, галоўнае, – хто навуковы кіраўнік!

***

– Кажуць, у цябе дзяўчына вельмі страшная.

– Ну, я вадзіў яе да пластычнага хірурга... Ён сказаў, што прасцей хвост прышыць.

***

Калі я была маленькай, я марыла, што аднойчы мяне забярэ чароўны прынц куды-небудзь далёка-далёка. Зараз пра гэта марыць мой муж.

***

Чым тупей навучальная праграма, тым разумней урад у вачах новага пакалення.

***

- Ну што ў вас, студэнт?

- Каньяк.

- Та-ак... Каньяк гэта добра!

- Не-е. Каньяк - гэта «выдатна»!

***

Вегетарыянец — гэта старадаўняе індзейскае слова. Азначае «фіговы паляўнічы».

***

Надпіс на асфальце «Я ЗНОЎ ПЕРАСПАЎ З ТВАЁЙ ЖОНКАЙ!» узбударажыла ўвесь дом!

***

Стаю, палю на гаўбцы. Папяльніцы пад рукой не было, таму шпурнуў недакурак з акна.

А ўнізе ішоў нейкі маленькі хлопчык, гадоў дзесяці, напэўна. І недакуракваліцца проста ў яго ног. Ён галаву задзірае і крычыць мне:

- Дзядзечка, недакуркі з гаўбца кідаць нельга. Гэта непрыгожа!

І, ведаеце, мне так не па сабе стала... Я не паленаваўся, апрануўся, спусціўся ўніз з сёмага паверху і даў звіздзюлей гэтаму хлопчыку. Яшчэ, бл., вучыць мяне будзе, засранец.

Мужык стаіць перад радзільняй, жонка ў акне:

- Люся, ну як усё прайшло?

- Ды не вельмі, Вась, усё парвалі!

- Як, усё парвалі?!

- Ды ты не перажывай, потым усё зашылі!

- Як, УСЁ зашылі??? !!!

***

- Ізя, а што, праўда, што ты бандытам аддаў усё золата і грошы?

— Такі да. Яны ўставілі ў зад паяльнік, а на пуза прас, і падлучылі да току!

— І ты адразу аддаў?

— А што, чакаць пакуль за святло накруціць?

***

ууу: Антон, мне патрэбна твая парада, як мужчыны.

ххх: давай.

ууу: Зразумела, дзякуй.

***

У губернатара дылема: дзе ўзяць асфальт для дарог, каб ездзіць на Паршэ, які па накладных і ёсць асфальт.

***

Стары бэндэравец у эміграцыі ў Любліне. Заходзіць у антыкварную лаўку і бачыць маленькую бронзавую фігурку коткі. На цэнніку напісана: «котка - 1000 злотых, яе гісторыя - 10 000 злотых».

- Я магу купіць котку без гісторыі? - пытае ён прадаўца.

- Вядома, - адказвае прадавец, - Але за гісторыяй вы ўсё адно вернецеся.

Бэндэравец купляе маленькую бронзавую котку і ідзе па горадзе. Раптам ён заўважае, што следам за ім спачатку ідзе адна котка, потым другая, потым яшчэ. Праз некаторы час за ім ужо ідуць тысячы котак. Бэндэравец у жаху пачынае ўцякаць. Коткі не адстаюць. Тады ён размахваецца і кідае маленькую бронзавую фігурку коткі ў раку. Усе коткі тут жа скачуць у ваду ўслед за статуэткай і тонуць.

Бэндэравец вяртаецца ў лаўку.

- Я ж папярэджваў вас, што Вы вернецеся за гісторыяй, - кажа яму прадавец.

- Да чорта гісторыю! - адказвае мужык. - У Вас ёсць маленькі бронзавы маскаль?

***

Справа была позняй вясной у студэнцкім інтэрнаце. Хлопцы закадрылі трох дзяўчынак на вуліцы і, як належыць, затарыўшыся півам-гарэлкай, пацягнулі іх да сябе ў інтэрнат.

Трэба сказаць што «пацягнулі» ў прамым сэнсе гэтага слова - інтэрнат меў 9 паверхаў вышыні, планіроўку ў выглядзе літары «П» і непрыступную бабку-вахцёрку...

Карацей, хлопцы падняліся да сябе на 4-ы паверх і з гаўбца спусцілі калідорную дывановую дарожку - тыпу, чапляйцеся, дзеўкі па чарзе, будзем уцягваць наверх! Першую ўцягнулі. Другую... Засталася трэцяя, апошняя. А ў хлапцоў сілы ўжо на зыходзе і гэта апошняя чувіха была трохі паўнаватая.

Цягнуць - пацягнуць... Да трэцяга паверху ледзь-ледзь даехалі. Дзяўчынка вісіць моўчкі, як мяшок, думае «абы не кінулі, трэба было першай падымацца».

А на гаўбцы насупраць некалькі старшакурснікаў ад няма чаго рабіць назіраюць за ўсім працэсам. І тут адзін з іх не вытрымаў і крыкнуў:

- Ды кіньце вы яе на х..! Усё адно не дасць нікому!

«Эскалатар» здрадліва затармазіў пасля гэтых слоў. Чувіха секунд пяць павісела і як загарлапаніць:

- ДАМ! ДАМ! УСІМ ДАМ!

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 15.09.2013 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сяброў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў